Opłata pocztowa opłacona ryczałtem

Цана асобнага нумару 15 гр.

# РОДНЫ КРАЙ

Орган Т-ва Беларускае Асьветы — выходзіць 4 разы ў месяц.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Езуіцкая вул. 6, кв. 4.

Прыймо інтэрэсантаў: у Сэкрэтар'яце ТБА—у будні ад 10—12 г. у Рэдакцыі „ ад 12— 2 г.

Цана падпіскі з дастаўкай поштай: За год 5 зл. 50 гр.; за паўгоду—3 зл. за 3 месяцы — 1 зл. 60 гр.; за 1 месяц — 60 грош.

№ 18 (43) | Вільня, 10-га жніўня 1934 г. | Год 2-гі.



# Шаг наперад, два—назад.

Загадам Куратарыі Віленскага Школьнага Вокругу ў гэтым годзе зьліквідавана Навагрaдзкая Беларуская гімназія.

Прычына ліквідацыі, як відаць з успомненага загаду, ляжыць як быццам у малой колькасьці вучняў.

Ці фактычна гэта так? Дырэкцыя гімназіі сьцьвярджае, што лік кандыдатаў у гэтым годзе на першую клясу выносіў аж 38 чалавек.

Як-бы там ня было, нязначны лік вучняў у мінулым школьным годзе можна вытлумачыць тымі пэрыпэтыямі, якія праходзіла гімназія: 1) наскок на гімназію розных камуністычных адбросаў, якія, ня маючы пасьпеху для свае агітацыі сярод дарослых, выбралі сабе лёгка-падатную моладзь; 2) правакаваньне моладзі рознымі канальлямі „z pod ciemnej gwiazdy" з другога боку; 3) эканамічны крызыс, які асабліва беларускую вёску давёў амаль да абсалютнай галіты; 4) „upaństwowienie" гімназіі і зьвязаная з ім асабліва у леташнім годзе падвышка (ў параўнаньні з былой прыватнай школай) платы за навуку, а такжа труднасьць звальненьня ад платы бедных вучняў на падставе прошлагодняга абежніка № 125 з дня 6. IX. 1933 г. Міністра Асьветы— вось тыя прычыны, якія абнізілі так значна лічбу вучняў у нашых гімназіях.

Аднак, як бачым пералічаныя намі прычыны не зьяўляюцца нязьменна сталымі, што ўрэшце й пацьвярджаецца апошняй заявай дырэкцыі ў справе кандыдатаў у 1-шую клясу мінулай вясною.

Трэба пры гэтым тут зазначыць, што у шмат якіх польскіх гімназіях справа колькасьці вучняў прадстаўляецца мала лепш, не зважаючы на тое, што яны знаходзяцца ў шмат лепшых варунках, г. зн.: 1) маюць натуральную падбудову для сваіх гімназіяў праз тысячы польскіх пачаткавых школаў (беларускіх пачаткавых так як няма); 2) маюць права прыймаць у свае гімназіі дзяцей усіх нацыянальнасьцяў (у беларускія гімназіі можна прыймаць толькі й выключна беларусаў) і такім чынам яны засіляюцца часта ў 50% жыдамі, якіх найбольшая маса прыпадае на гарады й мястэчкі, дзе якраз і месьцяцца сярэднія школы; 3) засіляюцца ў значнай меры дзяцьмі урадоўцаў (сярод якіх беларусаў лічаныя адзінкі), г. зн. клясай, якая з аднаго боку мае вялікія прівілеі (плацяць за дзяцей толькі палавіну), з другога-ж шмат лепш забясьпечана матар'яльна чымсь селянін.

Як бачым з вышпрыведзенага, прычына, каторую падала Куратoрыя ў сваім ліквідацыйным загадзе, не зьяўляецца настолькі важнай, сам жа загад — вельмі крыўдным для беларусаў, бо-ж ён фактычна зачыняе дарогу беларускай моладзі да асьветы ў роднай мове. Адна Віленская гімназія ня здолее пры такіх варунках заспакоіць патрэбы беларускага народу, а ўрэшце, як відаць, не сягодня — заўтра і яе чакае такі-ж самы лёс.

А цяпер паглядзім, ці такія акты польскай дзяржаўнай унутранай палітыкі зьяўляюцца карыснымі для дзяржавы й яе ўзмацаваньня на рубяжох рэспублікі?

Не, не й сто разоў не!

Сяньняшнюю карысную для Польшчы міжнародную коньюнктуру трудна ўважаць вечнай, ня зьменнай. „Fortuna kołem się toczy", кажа польская прыказка, а аналіз гістарычных падзеяў у іншых краінах сьведчыць аб тым, што розныя катаклізмы прыходзяць неўспадзёўкі і прадбачыць іх ніяк нельга. Даволі прыпомніць, што невялічкі сам па сабе сараеўскі інцыдэнт 20 гадоў таму назад прывёў да ўсясьветнае вайны. А падзеі ў Нямеччыне, Аўстрыі, Гішпаніі і г. д.? Ці-ж гэта не найлепшыя доказы нясталасьці міжнароднае коньюнктуры?! А калі так, то такія „niekonsekwencji", як: 1) устава з дня 30. VII. 1924 году, якая ўвяла беспатрэбную барацьбу там, дзе яе быць не павінна, 2) адчыненьне і праз два гады зачыненьне адзінай беларускай вучыцельскай сэмінарыі імя Фр. Багушэвіча, 3) „upaństwowienie" а праз два гады ліквідацыя Навагрaдзкай Беларускай гімназіі і г. д. Усё гэта, паводле нашай думкі, не ўзмацоўвае дзяржаву на яе ўсходніх рубяжох, а наадварот: вельмі і вельмі аслабляе.

Гэта нічога, што польскія палітыкі ў сучасны мамэнт дружаць з Саветамі і Нямеччынай, гэта нічога, што на „беларускай шыпке" як быццам пануе спакой і поўнае здаваленьне.

У сапраўднасьці-ж нацыянальная сьвядомасьць сярод беларускіх масаў расьце, а адсутнасьць выразнай праграмы ў беларускім пытаньні выклікае нездаваленьне;

Бо-ж сапраўды нельга прытрымоўвацца такое тактыкі, як: **ад прыпадку да прыпадку, шаг наперад, два — назад.**

**Лепш было-б ісьці паволі, але няўхільна і стала ўсё наперад ды наперад.** Ад гэтага выйграла-б бязумоўна Дзяржава ды ня было-б такога нездаваленьня сярод беларусаў.

Шкада, што высокія польскія палітыкі ня могуць беспасрэдна прылажыць свайго вуха да нетраў беларускай зямлі, а тады яны напэўна-б пачулі той пад'земны гул, які нашае беларускае вуха чуе ўжо даўно.

*Эра.*

**Міхась Машара**

## З цыклю вершаў „Безработныя".

Глядзі, як гаруе араты,
У няволі у чорнай ральлі.
Нядоля і ў вёску прыехала ў сваты —
Бяз працы-ж тут век ня былі.
А сёньня – лічы палавіна
Марнее бяз працы вось так.
І есьці з іх хоча кажынны, —
Кажынны з іх шчыры жабрак.
Бяз вартасьці праца над хлебам,
І хлеб сам на марна ідзе.
Маркоты у вёсках, як трэба,
А беднасьць расьце і расьце.
І нейкае зьмены чакаюць сяляне,
У думках трывожны прыліў.
Завісла жуда над палямі
Прыгожых ваколіц і ніў.

# Аб беларуска-літоўска-польскім паразуменьні.

Апошнім часам газэты шмат пішуць у справе польска-літоўскага паразуменьня, якое, здаецца, у хуткім часе прыме пэўныя рэальныя формы, бо-ж гэтага вымагаюць інтарэсы як Літвы, так і Польшчы. Адвэй з важных прычын, якія змушаюць Літву і Польшчу да згоднага сужыцьця, зьяўляецца нямецкая экспансыя на ўсход, якая мае мэтай адрэзаць і Літву і Польшчу ад мора, каб затым, прыблізіўшыся з Усходняй Прусіі праз беларускую Горадзеншчыну да украінскіх земляў, падпарадкаваць сваім палітычна-гаспадарчым уплывам ня толькі самую Польшчу, але таксама Беларусь і Украіну. Літва, пасьля ўтраты Клайпэды, сталася-б звычайнай нямецкай калёніяй. Супроць гэнай нямецкай экспансыі, як натуральная контракцыя, і мусіць паўстаць польска-літоўскае паразуменьне, якое зьяўляецца аднолькава неабходным і для Польшчы і для Літвы. Але ёсьць і пэўныя перашкоды да такога паразуменьня. Польшча, як і калісь, хацела-б гэтае паразуменьне з Літвой правесьці ў плошчы крэўска-гарадзельскага incorporamus, стварыць „jedne nieróżne ciało". Тымчасам Літва, знаходзячыся сяньня толькі ў межах колішняй Жмудзі, хацела-б у свой чарод пры помачы гэнага паразуменьня заняць становішча Літвы Вітаўтавай, са сталіцай у Вільні, з захаваньнем больш поўнае сувэрэннасьці. Адначасна пэўныя літоўскія палітыкі карыстаюцца з непаразуменьня між Літвой і Польшчай, добра зарабляючы на акцыі „вызваленьня Віленшчыны", прыапрануўшы тогі „бескампрамісо-

вых патрыётаў".

Аднак апошнія паездкі польскіх палітыкаў у Літву, паездка польскага Міністра Бэка ў Эстонію, узмацаваньне літоўскага становішча ў Клайпэдзе, ўсё гаворыць аб тым, што справа польска-літоўскага паразуменьня шпарка ідзе наперад.

І вось тут трэба сказаць, што, калі пры гэтым паразуменьні Літва і Польшча не дацэняць беларускага пытаньня, літоўска-польскае паразуменьне ў будучыні можа стацца палітычна малаважным актам. Справа ў тым, што сяньняшняя Літва гэта ня колішняе Беларуска-Літоўскае Князьства, а толькі адна колішняя Жмудзь. Калі нават да яе і далучыць Віленшчыну, дык і ў гэтым выпадку *ў Літве і ў Польшчы а так-жа між імі* знойдзецца *беларускі народ*, які мае свае нацыянальныя імкненьні, сваё гістарычнае назначэньне. Пры вылучэньні з літоўска-польскага паразуменьня беларускага пытаньня, розэнбэргаўская палітыка пастараецца ня толькі зьвязацца праз Горадзеншчыну з Украінай, але ў першую чаргу абудзіць беларускі народ да самастойнага жыцьця, каб гэтым самым адрэзаць Літву ад Польшчы. У гэтых варунках вартасьць і сіла літоўска-польскага паразуменьня зьвядзецца да нуля; мала таго, Усход і Захад, як і калісь, будуць мець якнайлепшыя падставы да мяшаньня ў справы Літвы і Польшчы.

Словам, калі ўжо пачалася праца над наладжаньнем літоўска-польскага паразуменьня, калі яно мае быць сапраўды карысным і трывалым актам контракцыі нямецкаму захопніцтву, то гэнае паразуменьне яшчэ сяньня павінна змодыфікавацца на беларуска-літоўска-польскае паразуменьне. Бо толькі блёк Незалежных Беларусі, Літвы і Польшчы будзе мець належна -адпорную сцэмэнтоўку, дзейна праціўставіцца Нямеччыне і Ўсходу, зможа рабіць уплывы на паўночна — прыбалтыцкія дзяржавы, зможа ў зародку спаралізаваць нямецкія намеры. Гэты блёк будзе мець у сваіх руках найкарацейша-найдагаднейшы транзытны шлях на Захад і ў Новы Сьвет, зможа ён нават узьняць рэвіндыкацыйную палітыку ў кірунку гістарычна не-нямецкіх зямель Усходняй Прусіі, ды прылучэньня зямель Усходняй Беларусі.

Словам, усё зводзіцца да новага ці то моральнага, ці то фактычнага Грунвальду. Як і калісь, а можам сьмела сказаць, асабліва ў будучыні—рашаючую ў ім ролю адыграюць ізноў „палкі смаленскія".

*Эс.*

---

# Спроба дзяржаўнага перавароту ў Аўстрыі.

У поўдзень 25-га мінулага ліпня аўстрыйскія нацыяналь-соцыялісты зрабілі спробу дзяржаўнага перавароту ў Вене. Гэта ім не ўдалося і каля 200 чалавек, абвінавачаных у змове, было арыштована і аддадзена пад вайсковы суд. Аднак-жа бунтаўшчыкамі быў застрэлены ў канцлерскім палацы аўстрыйскі канцлер (прэм'ер-міністар) і фактычны дыктатар Аўстрыі Дольфус.

Адначасна другая група бунтаўшчыкоў захапіла венскую радыястанцыю, адкуль падала вестку, што ўрад Дольфуса скінуты і на чале новага ўраду стаў дасюлешні аўстрыйскі пасол у Рыме фон-Рынтэлен. Вестка гэтая мела быць клічам да перавароту ў цэлай Аўстрыі.

Грознае палажэньне апанаваў урад толькі ўвечары пры помачы войска і паліцыі. Незабаўная акцыя ўраду была немагчымаю, таму што бунтаўшчыкі мелі ў сваіх руках жыцьцё шмат якіх асобаў, затрыманых у канцлерскім будынку. Гэта прывяло да таго, што рэшта міністраў мусіла пачаць з бунтарамі перагаворы, запэўняючы іх, што яны бяскарна маглі-б адступіць і выбрацца сабе ў Нямеччыну, калі не дапусьцяць да праліцьця крыві і нікога з затрыманых імі не пазбавяць жыцьця.

Урад даваў збунтованым гэткія забавязаньні, вядучы перагаворы, бо ня ведаў, што галава ўраду канцлер Дольфус ужо забіты. Калі аб гэтым даведаліся, дык усе бунтары былі арыштованы.

Дзіўную і вельмі цікавую ролю адыграў пры ўсім гэтым нямецкі пасол у Аўстрыі Рыт, які сам узяўся быць пасярэднікам паміж урадам і бунтаўшчыкамі. Розныя газэты ўсяго сьвету робяць з гэтага вывад, што бунт быў падгатаваны ў Нямеччыне. Праўда, Гітлер хітра зараз-жа адклікаў пасла Рыта з Вены, нібы за тое, што нямецкі ўрад не ўпаважніў яго на пасярэдніцтва, і назначыў на месца Рыта дасюлешняга віцэ-канцлера Нямеччыны фон-Папэна, які, як вельмі спрытны чалавек, можа быць для Аўстрыі яшчэ больш небясьпечным.

30-га ліпня с. г. над'звычайны вайсковы суд засудзіў на кару сьмерці двух павадыроў змовы: электра-тэхніка Францішка Гольцвэбэра, які кіраваў усім нападам і гандлёвага памоцніка Отто Плянэтту, які забіў Дольфуса. Плянэтта прызнаўся да віны.

Апрача Вены былі забурэньні і ў іншых месцах Аўстрыі, але новы канцлер, дасюлешні міністар асьветы, Шушніг, злажыўшы ўрад па загаду прэзыдэнта Мікляса, цяпер ужо вярнуў спакой усёй Аўстрыі.

Удавою Дольфуса і яго дзяцьмі заапекаваўся італьянскі дыктатар Бэніто Муссоліні, які, па атрыманьні вестак аб бунце ў Вене, згрупаваў сільныя аддзелы войска на граніцы з Аўстрыяй, дэмонструючы гэтым падтрыманьне Італіяй аўстрыйскае незалежнасьці.

Венскія падзеі выклікалі вялікую трывогу ў Эўропе і шмат якія газэты параўноўвалі іх з забойствам у 1914 годзе аўстрыйскага эрцгэрцога Франца-Фэрдынанда, што, як ведама, паслужыла фармальнаю прычынаю аўстра-сэрбскае, а за ёю і сусьветнае вайны

Нямеччына выкручваецца ад падазрэньня ў замяшаньні яе ўраду ўва ўсёй гэтай крывавай авантуры (ў Аўстрыі налічваюць каля 300 асобаў забітымі і раненымі ў часе забурэньняў). Аднак-жа агенцыя Гаваса паведамляе, што аўстрыйскія ўлады затрымалі нацыяналь-соцыялістычнага нямецкага кур'ера і знайшлі ў яго дакумэнт аб тым, што пераварот падрыхтоўваўся на нямецкай тэрыторыі. Дакумэнт быў знойдзены ў чаравіках кур'ера. Гэта была інструкцыя, што павінны рабіць аўстрыйскія нацыяналь-соцыялісты. Кур'ер меў заўсёдны пашпарт з бясплатнаю нямецкаю візаю.

Усе пагранічныя з Аўстрыяй дзяржавы вельмі чутка адносяцца да справы аўстрыйскае незалежнасьці і гэткім чынам Аўстрыя становіцца як-бы нейкаю парахавою бочкаю, неасьцярожнае абходжаньне з якою з боку прагавітае гітлераўшчыны можа выклікаць новы сусьветны пажар.

Тымчасам Гітлер пайшоў угару, бо 2-га гэтага жніўня памёр на 88 годзе жыцьця нямецкі прэзыдэнт, вядомы павадыр усіх збройных сілаў Нямеччыны ў сусьветнай вайне—фэльдмаршал Гіндэнбург і Гітлер проста сам сябе назначыў на яго месца прэзыдэнтам Нямеччыны, пакідаючы за сабою і пасаду канцлера. На ўсім цывілізованым сьвеце няма другое гэткае асобы, якой належала-б уся поўня ўлады, бо Гітлер цяпер, як прэзыдэнт дзяржавы, зьяўляецца і начальнікам усіх збройных яе сілаў. Праўда ён загадаў правясьці народнае галасаваньне 19 гэтага жніўня, каб замацаваць гэткае сваё палажэньне ўнутры Нямеччыны, але як да яго нячуваных поўнамоцтваў адносяцца ўсе дзяржавы, дагадацца нятрудна.

*Аглядчык.*

---

# З газэт.

Менскі корэспондэнт віленскага „Słowa" п. Мік у артыкуле „Mińsk Białoruski" (Ліпень 1934) гэтак расказвае аб жахлівым жыцьці ў сталіцы савецкай Беларусі:

Пасьля зьліквідаваньня г. зв. „нацдэмаўшчыны" ў постаці б.б. паслоў да польскага Сойму з „Грамады" і „Змаганьня", каторых саслалі або на Камчатку, або ў далёкія ўсходня-сыбірскія концэнтрацыйныя лягеры, ГПУ приступіла да далейшых арыштаў сярод тутэйшых беларусаў. З мэтаю апраўданьня далейшага тэрору, ахвярамі якога падаюць ужо ня нейкія палітычныя дзеячы, але звычайныя, ні ў чым невінаватыя, грамадзяне, створаны спэцыяльны тэрмін—*охвостье* нацдэмаўшчыны. Дык усіх тых, хто,—на думку ўлады (ГПУ), — цягнуўся ў хвасьце праступнае беларускае нацыя-

---

# Настулька.

*(Расказ)*

(Гл. № 17 „Р. Кр.").

Настулька села пад дубам, як у крэсьле, паміж карэньнямі; вочы яе лашчылі соннае люстра рачное бухты, з якое ў грудзі плыў мягкі, быццам клейкі нават, пах ночы. У Настульчыным сэрцы душылася туга. Туга не па гэтых няўдалых сватох, не па тым, што, па сваёй, праўда, волі, дзяўчынаю яна застанецца. О, ёй добра быць дзяўчынаю, як добра кветцы палявой купацца ў залатой роскашы гарачага летняга дня або драмаць пад эфірным, чорным дываном цёплае ночы! Але мінае лета, уцякае сонца, галее ўвосень сенажаць, ледзяную скарынку выкоўвае на рэчцы зімовая сьцюжа... Мінае і дзявочы век.

„Усё цячэ, усё мінае"... — успомнілася Настульцы прачытанае гэтак яшчэ, здаецца, нядаўна. Гэтая вольная, чыстая і жыцьцятворчая вада ў рэчцы ніколі не прабяжыць два разы па тым самым месцы; гэты ціхі чэрвенскі вечар ніколі ня вернецца назад: будзе праз год мо' гэткі-ж самы ці прыгажэйшы яшчэ, але ня той, што дыхае цяпер, цалуе яе нявінныя вусны, машастам тонкім атуляе шыю, коўзаецца па шчоках, па руках, па грудзёх!

І дзіўна неяк Настульцы здалося, што сярод гэтых багатых шчодрасьцяў прыроды ня відаць шчасьця ў яе вёсцы, можа недзе ў куточку і ёсьць, але маленечкае яно. Сьпіць вёска, сьпіць увесь яе родны, прыспаны доляю, народ.

— „Вучылі мала, таму і сьпіць",—шапнула нешта ў глыбіні Настульчынай душы.

— „Трэба шукаць рады", — разважала ў думках Настулька, — „трэба нешта рабіць, каб збудзіўся народ мой ад свайго рабскага сну"...

Але, прадумаўшы ўсё, што абкружала яе ў гэтай прадзедаўскай вёсцы, яна прыйшла да вываду, што тут нічога ня зробіш.

„А каб гэта туды... на Усход, дзе, кажуць, будуецца Беларусь... унівэрсытэт, акадэмія... опэра нават беларуская, як пішуць газэты... У яе гэткі голас, а марнуецца тут. У гімназіі яшчэ зайздросьцілі ёй таварышкі, калі пад гітару яна пяяла „Грыця".

Настулька раптам спрабавала свой голас, успамінаючы мінулыя вучаніцкія свае дні, і ціха завяла: *Ой, нэ ходы Грыцю тай на вэчорныцы...*

Сумна. Абарваліся дрыжачыя гукі, рассыпаўшыся па вербалозе, аддаўшыся лёгкім рэхам у магутных галінах дуба над галавою ды зэфірам пракаціўшыся па рацэ.

Настулька азірнулася назад, бо па траве выразна ціха шорхалі шагі...

— Насьця, ты? — пачуўся голас маці.

— Я. А хто-ж? Што-ж гэта вам спаць не дае?

— А каб ты ліха ніколі ня ведала... Вось напалохала... шукаю ўсюды, — дзе магла падзецца? А яна сядзіць пад дубамі ды пяе сабе пад нос... Хадзі да хаты!

— Сьпеце сабе, мама... Я зараз прыйду.

Пакуль Настулька вымавіла гэтыя словы, маці ўжо стаяла над ёю.

— Сумуеш, дурненькая, — казала маці, — бядуеш, што замуж трэба ісьці... Але гэткая ўжо доля жаночая... Ня думай шмат... Здаецца-ж усё добра будзе...

— А мне, дык зусім нічога не здаецца... Ноч, цёпла, усё цьвіце, дыхае неяк пасвойму, дык і запяяла я, так сабе, паранейшаму.

— Знайшла дзе пяяць дый калі? Уночы! — дзівілася маці...

— Ну, што-ж ты сказала Міхасю? — раптам спыталася яна.

— А што я мела казаць? Ня зьбіраюся замуж ісьці дый годзі!

— Як-жа ж гэта?

— Ды так!

— А няхай цябе!..

— Што няхай?.. Сьпеце сабе. А я думаю, што пасьпеем нагаварыцца пра гэта.

— Глядзі, не бяры ў галаву, — настаўляла маці, — ня так чорт страшны, як яго малююць...

— Дайце мне спакой сьвяты, мама! — нецярпліва сказала Настулька, — ніхто мне нічога не намалюе. Заплаціце за выпітую гарэлку і канец бядзе.

— Як сабе хочаш, — адказала маці, — не дарма мы цябе вучыць стараліся, ня дзіця ўжо ты, свой розум маеш... Але спаць пара!

І маці пайшла назад да хаты, пасвойму цешачыся з усіх чараў ночы, расьсеяных па прывычным для вока маляўнічым ляндшафце, размалёваным пышна прыродаю на гэтым мілым куточку зямлі.

Настулька засталася на месцы яшчэ некалькі мінут. У галаве віхрам снаваўся плян далёкай, крыху рызыкоўнай, падарожы туды... на Усход. Яна пайдзе заграніцу не адна. Лярыса мае там брата настаўніка, хоць і далёка ад граніцы... Брат кліча да сябе... Дык з Лярысаю, хоць і звычайнаю, ледзь граматнаю дзяўчынаю, трэба згадзіцца ісьці... Тая гэтулькі разоў падбухторвала яе на гэту кампаньню... Няма чаго адкладаць...

„Заутра-ж пагавару яшчэ з Лярысаю, а там... бывайце здаровы, дубочкі магутныя!" — пастанавіла Настулька і пасьпешнымі шагамі скіравалася да хаты.

Ноч дыхала парою росту і расьцьвітаньня.

(Працяг будзе).

*Краўцоў Макар.*

---

## Папраўка.

У папярэднім нумары (17-м) у расказе „Настулька" зроблена карэктурная памылка:

У 3-яй шпальце ў канцы 12-га радка зьнізу надрукована „вока чалавечага", а павінна быць *„вока чалавечае"*; у тэй самай шпальце ў 8-м радку (напачатку) надрукована „каменьнямі", замест — *„карэньнямі"*.

нальнае дэмакратыі, хапаюць, дзе ўдасца, саджаюць у падвалы ГПУ на Савецкай вуліцы 49, або ў г. зв. „Амэрыканку“ — новы вастрог ГПУ, збудованы паводле апошняга слова вастрожнае тэхнікі, вінавацяць у зносінах з польскаю дэфэнзываю, у імкненьні да адарваньня БССР ад Саюзу Савецкіх Рэспублік, падрыхтоўваньні збройнага паўстаньня і інш. банальнасьцях, у якія ня толькі што ніхто ў Менску ня верыць, але ня вераць і самі пракуроры.

Прадстаўнікі „охвостья“, так сама, як і іхнія папярэднікі, вандруюць у лягеры на Далёкім Усходзе, на 10 гадовы срок, дзеля таго, што рэдка калі да палітычных праступнікаў тарнуецца лягчэйшая кара. Але і пасьля адбыцьця кары нельга будзе вярнуцца ў свой край. Гэткім спосабам адбываецца адбеларусчаньне Беларусі, яе карэнная жыхары ссылаюцца ў лягеры, зьяўляецца напливовы элемэнт.

Вечныя арышты, няпэўнасьць заўтрага выклікаюць моцнае пачуцьцё дэпрэсіі і вечнай баязьлівасьці, якая граніччыць блізка што з маніяй прасьледаваньня. Кожны баіцца кожнага. Найбліжэйшыя знаёмыя баяцца абмяняцца паміж сабою парою слоў, аб палітычных здарэньнях, аб справах харчаваньня гавораць толькі шэптам, нават у аднэй дружыне сябры не вераць адзін аднаму ўзаемна. Густая сець *сексотов* (секретных сотрудников ГПУ) шырока разгалінена — сусед падслухвае суседа, працаўнік у урадзе сочыць за сваім таварышам, брат не верыць брату..

Проці Саветаў настроены кожны сярэдні грамадзянін, гэтак сама настроены канцэлярскі вураднік, у адзін тон з імі настроены і работнік, у імя якога і для якога нібыто „творыцца новае жыцьцё“...

Абвінаваціць бальшавікі умеюць кожнага нават у тым, чаго ён і ня сьніў ніколі. Напр., музыка абвінавачваецца ў „*искажении пролетарской идеологии в музыке*“. Ну, і спрабуй дакажы, што ты ня думаў аб магчымасьці існаваньня чаго-нібудзь буржуазнага ў... нотах!

Пекла, створанае бальшавікамі для інтэлігэнцыі і работнікаў у горадзе, ня вельмі розьніцца ад пекла вясковага, дзе душыцца селянін ад колектывізацыі:

„Калі настроі гораду зьяўляюцца напрыязьнімі для цяперашняга парадку рэчаў, — піша далей п. Мік, — дык тым болей можам гэта сказаць аб беларускай вёсцы. Экспэрымэнт колектывізацыі выклікаў спраціўленьне беларускага мужыка, які цяжка пакутуе за гэта. Кожны, напрыклад, настроены да колектыўнае гаспадаркі, кожны каму цяжка растацца з сваёю худобаю, атрымлівае назоў *кулака*, а ў найлепшым разе — *падкулачніка* і, як такі, дзеліць лёс сабіро брата з гораду. Край Пячорскі, край Нарымскі або паўночная Сыбір будзе для яго новаю прымусоваю бацькаўшчынаю“.

Што такое беларусізацыя і як далёка яна пайшла ў бальшавікоў, даведваемся з гэткіх словаў вышэйназванага аўтара:

„Беларусізацыя – у свой час „утрапене“ для старых расейскіх вураднікаў, якімі былі абсаджаны ўсе ўрады ў Беларускай Савецкай Рэспубліцы, сягоньня выклікае на вуснах усьмешку іроніі. Праўда, што ўрадовая (ўнутраная) карэспондэнцыя вядзецца па інэрцыі ў беларускай мове, але ў размове вураднікаў паміж сабою або з публікаю ніколі нельга пачуць беларускае мовы.

Выняткам зьяўляецца ўрад ГПУ, дзе ані ў размове, ані на пісьме беларуская мова не атрымала права грамадзянства“.

Цікава, што і ў гэткім пекле не пакідае часам людзей гумар. Аўтар піша:

„Даўнейшы беларускі гімн „Адвеку мы спалі“ забаронены. Сягоньня яго цалком замяняе „Інтэрнацыонал“. Ужо раней злыя языкі парафразавалі яго (беларускі гімн — Рэд.) гэтак:

„Адвеку мы спалі і нас разбудзілі,
І ў... нам далі і зноў палажылі“...

Не бракуе таксама і анэкдотаў на актуальныя тэмы, ня гледзячы на тое, што за гэта таксама грозіць строгая кара: пяць гадоў зачыненьня ў лягеры“...

Якія жудасныя рэчы расказаны простымі чалавечымі словамі. Дзесяць гадоў катаргі за неадаволеньне рэжымам колектывізацыі, за непролетарскую ідэолёгію у... музыцы; пяць гадоў лягеру за... анэкдот. Ня жыцьцё, а страшны, сьмяротны сьмех сатаны!

Пасьля кожнае воркі, а таксама пры зьяўленьні засьмечваючай расьліннасьці ці скарынкі на паверхні глебы, поле трэба баранаваць.

Чорны папар дае вялікія карысьці ў параўнаньні з нашым папарам зялёным. Перш за ўсё, у пухлай зямлі ёсьць досыць паветра, а падругое, такая глеба добра глытае вільгаць. Абедзьве гэтыя ўмовы вельмі добра ўплываюць на вытварэньне пажыўных складнікоў, патрэбных расьлінам. Далей, пры чорным папары глеба добра ачышчаецца ад засьмечваючай расьліннасьці.

У тых гаспадарках, у якіх не хапае хлеўнага гною і дзе глебы пераважна лёгкія, карысьней замест чорнага папару заняць поле пад лубін або іншую расьліну на зялёнае ўгнаеньне. У нашых умовах выгадна таксама замест чорнага папару сеяць у папарным полі вікавую мешаніну.

Пад гэтую мешаніну гной вывозіцца раньняю вясною, заворваецца і зараз жа высяваецца мешаніна чорнае вікі і аўса. Мяшанка робіцца наступным спосабам: бярэцца 110-120 кілёграмаў (7-8 пудоў) вікі і 65-80 кг. (4-5 пуд.) аўса на гэктар. Калі глеба гліністая, то скошаную віку нельга сушыць на тым самым полі, але зараз-жа па скошаньню прыбраць яе на другое поле, а поле пасьля вікі заразжа загараць. Пасьля гэтае воркі поле толькі барануецца і на ім сееца азімае збожжа, бо на другую ворку звычайна не хапае часу. Карысна пасьля вікі пагнаіць поле фосфарнымі гнаямі.

На заканчэньне мусім падкрэсьліць, што васеньных ворак (у крайнім выпадку аднае воркі) вымагае папарнае поле ня толькі тады, калі маем на мэце трымаць яго пад чорным папарам, але і тады, калі поле хочам заняць якою-колечы расьлінай, як вікавай мешанінай, лубінам і г. д.

*З. К.*

**Лячэньне овачамі.**

Овачы, а перадусім яблыкі, вельмі карысныя для людзкога арганізму. У яблыках знаходзіцца шмат вітамінаў і розных солей, якія неабходны для людзкога арганізму, а перадусім арганізму дзяцей.

Ёсьць цяпер у некаторых краінах спэцыяльныя шпіталі, ў якіх лячэньне вядзецца пераважна овачавымі стравамі. У шпіталях гэтых сьцьверджана, што овачавая дыэта вылечваюць сухоты, скурныя хваробы, хваробы касьцей, а апрача таго недамаганьні жывата і кармавога праходу наагул.

У апошнія часы асаблівую лячнічую сілу дактары прыпісваюць памідорам.

Вядомы нямецкі праф. Д-р А. Шальле радзіць як найболей есьці капусты. Капуста мае ў сабе ўсе дасюль вядомыя вітаміны і розныя квасы, якія памагаюць траўленьню. Прафэсар цьвердзіць, што капуста пры жалудачных хваробах і хваробах кармавых дарог ёсьць незамянімай ежай.

# Гаспадарчы аддзел.

## Як абрабляць папар.

Яравы палетак, пасьля збору з яго гаспадарчых расьлінаў, пакідаецца ў нас звычайна пад папар. Папар гэты ў восені ніколі не гарэцца і на ім пасецца жывёла цэлую восень і доўгі час вясною. Такое гаспадараваньне ёсьць вельмі неразумным. Перш за ўсё, адна траціна зямлі застаецца ня выкарыстанай, а па другое, застаўшаеся як зялёны папар поле ня можа вытварыць належнае колькасьці пажыўных складнікоў для будучае расьліны і нарэшце такое поле трудна апрацаваць. Каб такім зьявішчам запабегчы, трэба нашым сялянам раз назаўсёды расстацца з традыцыйнай трохпалёўкай і перайсьці да шматпольнае гаспадаркі з правідловым чаргаваньнем расьлінаў; пры шматпольнай гаспадарцы ў папарным кліне застаецца ня болей аднае пяціны або аднае шасьціны ўсяе ворнае зямлі.

Што-ж тычыцца самога зялёнага папару, то яго, так ці інакш, трэба таксама пазбавіцца, а завесьці т. званы чорны папар. Чорны папар палягае на тым, што глеба пасьля збору яравых хлябоў адразу-ж паддаецца апрацоўцы і апрацоўка гэта час ад часу паўтараецца да тае пары, пакуль ня будзе засеяна азімая збажына. Першая ворка адразу пасьля збору яравое збажыны праводзіцца мелка, а пасьля яе па якімсь часе ідзе другая, глыбокая ворка. Пасьля другое воркі ральлю баранаваць ня трэба, чаго асабліва трэба трымацца на гліністых грунтох.

Вясною, калі зямля падсохне, трэба яе пабаранаваць, а пасьля вывезьці гной і зараз-жа мелка яго прыараць. Апошняе адносіцца да глебаў цяжкіх. Пры пяшчаных глебах з вывазкай гною трэба пачакаць прыблізна да палавіны чэрвеня, бо ў пяшчаных глебах гной шыбка раскладаецца і вытварыўшыяся дзякуючы гэтаму пажыўныя складнікі могуць быць лёгка выпаласканы даждамі.

Пасьля вывазкі гною на цяжкіх глебах трэба правесьці яшчэ дзьве воркі; пры гэтым астатняя ворка павінна адбыцца не пазьней, як за два тыдні перад сяўбою азімага, каб да сяўбы глеба мела час адпаведна зьлегчыся. На лёгкіх глебах пасьля прыворваньня гною звычайна хапае аднае воркі, якую трэба правесьці не пазьней, як 3-6 тыднаў перад сяўбою.

**М. Зошчэнко.**

## У Судзе.

(*Пераклад з расейскае мовы М. Ш.*).

Судзьдзя пільна глядзіць на абвінавачаных. Іх двое — муж і жонка. Самагоншчыкі.

— Дык як - жа — пытаецца судзьдзя — значыцца вы, абвінавачаны, не прызнаеце сябе вінаватым?

— Не, кажа падсудны, не прызнаю... Яна ўва ўсім вінна. Няхай яна і расплачваецца. Я нічога пра гэта не ведаю...

— Дазвольце—дзівіцца судзьдзя, — як-жа так? Вы жывіцё з жонкай у аднэй кватэры і нічога ня ведаеце. Ня ведаеце нават чым займаецца ваша жонка.

— Ня ведаю, грамадзянін судзьдзя... Яна ўва ўсім...

— Дзіўна — кажа судзьдзя.— абвінавачаная, што вы скажаце?

— Праўда, начальнік-судзьдзя, праўда... Я ўва ўсім вінавата.. Мяне і карайце. Ён не дат..чыць. .

— Грамадзянка,—кажа судзьдзя,— калі вы хочаце выгарадзіць свайго мужа, дык задарма. Суд усё роўна разьбярэ... Вы толькі затрымліваеце справу... Вы падумайце самі: не магу-ж я вам паверыць, што муж жыве ў аднэй кватэры і нічога ня ведае... Ці вы з ім ня жывіцё?

Падсудная маўчыць. Муж радасна ківае галавой.

— Ня жыву я з ёй — кажа ён — вось іменна і ня жыву. Некаторыя думаюць, што я жыву, а я не... Яна ўва ўсім віноўніца...

— Ці гэта праўда? — пытае судзьдзя ў падсуднай.

— Ужо праўда... Мяне адну карайце, ён ня вінен.

— Вось як?—кажа судзьдзя.— Ня жывіцё. Што-ж, ня зыйшліся характарам?

— Характарам, грамадзянін судзьдзя, і наагул... Яна за мяне старэйшая і...

— Як гэта старэйшая? — пытае падсудная. Равесьнікі мы з ім, грамадзянін судзьдзя... Толькі на месяц усяго я і старэйшая.

— Гэта праўда—кажа падсудны—толькі на месяц... Гэта яна сапраўды, грамадзянін судзьдзя... Ну, а для бабы кожны месяц, што год... У сорак гадоў.

— Няма сорак. Лжэ ён грамадзянін судзьдзя.

— Ну хаця і няма, а для бабы трыццаць дзевяць—век. Усё-ж такі і волас сівы да саракоўкі і наагул.

— Што наагул?— абражаецца падсудная. — Ты дагаварвай! Няма чаго перад судом мяне сароміць. Што наагул?

Судзьдзя ўсьміхаецца.

— Нічога, Марусечка... Я толькі так. Я кажу наагул... і скура ўжо ня тая, і зморшчкі, калі скажам у сорак гадоў... Ня жыву я з ёй, грамадзянін судзьдзя...

— Ах, вось як! — крычыць падсудная. — Скура табе не па смаку? Зморшчкі табе, морда сабачая, не падабаюцца? Перад людзьмі выдумаў ты мяне сароміць... Лжэ ён, грамадзянін судзьдзя! Жыве ён са мной, с... сын. Жыве і самагонны апарат сам купляў... Я-ж для яго, для с... сына, кроў псую, ратую яго, а ён вось што! Сароміць... Няхай разам караюць...

Падсудная плача, моцна смаркаючыся ў хустку. Падсудны атарапела глядзіць на жонку. Пасьля з адчаю махае рукой.

— Баба, баба і ёсьць, чортава баба... Няхай сабе грам. судзьдзя... Я таксама... І я віноўнік... Няхай ужо... У-у, сьцерва.

Судзьдзя радзіцца з засядаючымі.

# Беларуская хроніка.

## На правінцыі.

*„Материнскій язык“ у Праваслаўнай Беларускай Царкве.* **Браслаў.**. Усваім часе мы падавалі да агульнага ведама аб агідна-безтактоўным выступленьні на так званым зьезьдзе благачынных Віленскай Епархіі ў пачатку 1934 г. браслаўскага пратаіерэя Васілеўскага супроць беларусізацыі праваслаўнае Царквы, паднятай на гэтым зьезьдзе гр. Р. Астроўскім.

Тады гэны „блага чынячый“ пратаіерэй страшэнна абураўся, няўдала даводзячы, што „введеніе бѣлорусскаго языка“ ў Царкву— гэта палітыка, якая толькі разбурвае праваслаўную царкву, што „русскіхъсвященниковъмолънѣтъ въ Віленской Епархіи“, што „всѣ мы въ сношеніяхъ съ прыхожанами, а также и въ школѣ (якая нагласьць) пользуемся исключительно материнским языкомъ а ни въ коемъ случаѣ не русскимъ“ і г.д.

У нядзелю, 15-га ліпня г. г., я спэцыяльна паехаў у Браслаў і прастаяў ад пачатку да канца ўсю абедню, каб пераканацца, як

выглядае гэты не рускій, а „материнскій языкъ" у сапраўднасьці.

І вось публічна заяўляю, што *ўсе тое, што гаварыў таксама публічна на зьездзе прат. Васілеўскі* зьяўляецца *наглай ілжой.* Ен выключна карыстаецца ў царкве *расейскаю моваю,* якая, як відаць, і давяла да таго, што ў царкве 15 ліпеня 34 г., падчас„слова Божага„ (проновѣди) было толькі 17 чалавек—рэшта народу было каля Царквы і ўвайшлі толькі на цалаваньне крыжа. Зазначаю, што з расейцаў у Царкве я бачыў толькі адну кабету.

Дарма а. Васілеўскі так абураўся падчас пропаведзі на тое, што людзі ня ходзяць у царкву, а на вечарынкі бягуць за 10–15 вёрст.

Нічога дзіўнага, бо на вечарынцы яны чуюць сваю родную зразумелую для іх беларускую мову, а ў царкве—чужую, незразумелую.

З гэтага відаць, што ня тыя, хто дамагаецца беларускае мовы ў Царкве, разбурваюць яе, а Васілеўскі і „іже с нім" разагналі ўсіх верных ды служаць пры пустых царквох.

Чэсныя сьвяшчэньнікі павінны ўрэшце заявіць публічна, што ім не падарозе з Васілеўскімі, якія ашукваюць і сябе і людзей і Бога. Тым балей, што апостал Павал у сваім пасланьні да Карынфян (Разьдз, XII, XIII і XIV) выразна дамагаецца ад прапаведнікаў Слова Божага *Жывое Мовы,* а не „материнскаго языка" ў зразуменьні а. Васілеўскага.

*Праежджы.*

---

(Вішнева, Вялейскага павету). Гадоў з восем сядзеў у нашай гміне на пасадзе войта п. Тумаш, які раней быў мулярам, а на войтаўстве сваім набраўся вялікае хванабэрыі і не аднаго селяніна патурбаваў адседкаю толькі за тое, што ня так адказваў яго міласьці, як яму хацелася. Цяпер нам прыслалі, аж пасьля трох разоў выбіраньня, войта, нейкага пана Міцкевіча, казалі выбраць, ну і выбралі яго за войта. У гутарках нярэдка чуеш ад людзей нараканьні на некаторыя практыкі нашае гміннае абслугі; усе кажуць, што вышэйшае начальства ня ведае аб гэтым, бо заведзенага помоцнікам пісара М-каю звычаю папэўна не сьцярпела-б.

Нядаўна згарэла ў вёсцы Лынойцы 37 хатаў, кажуць, што быў падпал; пачаўся пажар з гумна вясковага багатыра Разбачылы.

Яшчэ нам, вяскоўцам, вельмі дзіўна, як гэта пазваляецца, каб раскідалася па вёсках бальшавіцкая „Асва", якая бэсьціць усё беларускае і нават тых няшчасных беларусаў, якія, будучы пасламі ў Сойме, выслужваліся перад бальшавікамі на карысьць маскоўскае вялікадзяржаўнасьці, а пасьля пассыланыя былі ў Салоўкі ды на Камчатку.

Не адзін з нашых хлапцоў пайшоў да бальшавікоў, але павярталіся хто праз год, а хто і праз некалькі месяцаў і цяпер расказваюць, што нідзе хіба на сьвеце няма гэткага пекла, як у бальшавікоў, напр.: сям'я з 6-цёх душ, у тым ліку чацьвёра дзяцей, маючы адну кароўку, павінна аддаваць камуністам 125 літраў малака ў месяц, а ня пытаюцца, ці з худое кароўкі і сам гэтулькі малака надоіш. Цяпер моладзь зусім ужо ня цягнецца ў бальшавіцкі бок, хоць агітатары пaціху стараюцца хваліць маскоўскі „рай".

*Сьвірскі.*

## У Латвіі.

— *Гвалты над беларусамі ў Латвіі.* Апошні пераварот у Латвіі пачынае балюча адбівацца і на грамадзка - культурным жыцьці тамтэйшых беларусаў. Яшчэ так нядаўна беларуская прэса пісала аб арышце гр. Пігулеўскага, старшыні Беларускага Аддзелу пры латвійскім Мін'стэрстве Асьветы, а сяньня ізноў даведваемся, што аднячасна з гэтым ужо зьліквідованы ўспомнены Беларускі Аддзел, зачынена блізу дзесяць беларускіх школаў, арыштавана сем чалавек вучыцялёў-беларусаў і ведамы дзеяч гр. Езавітаў. У арыштаваных адбыўся вобыск, аднак нічога, іх кампрамітуючага, ня было знойдзена. Латвійскія ўлады не змаглі ім прышпіліць ані палянафільства, ані саветафільства і трымаюць іх у арыште толькі за тое, што гэтыя людзі стойка бароняць інтарэсі беларускага народу. Гр. Езавітаву закідаюць даслоўна тое, што ён „можа быць небясьпечным для дзяржавы ў будучыні". Так і просіцца да гэтых фактаў наступная дапіска: Не змагла праглынуць беларусаў стомільённая белацарская а цяпер чырвонабальшавіцкая чорная сотня, не праглыне іх і жменька рыжскіх дзікуноў.

— У канцы мінулага месяца ў Латвіі адбыліся міжнародныя вясьлярскія гонкі. Некалькі першых мейсц здабыў ізноў, ведамы з папярэдняга нумару, студэнт-беларус з Вільні грам. Юры Кепэль, які атрымаў тытул „чэмпіёна Латвіі".

---

## Царкоўная хроніка.

— *Сьв. Сайковіч пакараны.* Дамагаючыся належнай кары для тых, хто ў жыцьцё царкоўнае ўводзіць анархію, мы ў папярэднім нумары пісалі аб роўненскіх падзеях і аб тэй ролі, якую ў іх адгуляў сьв. Сайковіч. Сяньня з вялікім задаваленьнем даведваемся, што гэны сьвяшчэньнік за сваё неадпаведнае захваньне ў прысутнасьці япіскапа, Дух. Уладамі сьнінуты з настаяцельства Роўненскага Сабору ды быў звольнены ў заштат. Толькі пасьля розных захадаў яму ўдалося затрымацца ў тым-жа Саборы, але ўжо на месцы толькі другога сьвяшчэньніка. Бачым, мала памаглі сьв. Сайковічу і віленскія „благодарственныя" малебны ў яго чэсьць.

---

# З краю.

### Вялікая паводка ў Польшчы.

Ад паловы ліпеня сёлетняго году ў паўднёва-заходняй Польшчы праз некалькі дзён трывалі навальніцы. Вады ў рэчках і рэках столькі прыбыло, што апошнія выступілі са сваіх берагоў, заліваючы прырэчныя вёскі і гарады, зносячы масты, будынкі, шмат збожжа, ужо зжатага, і іншага гаспадарскага дабра. У часе паводкі патапілася некалькі дзесяткаў людзей, тысячы скаціны, авец, сьвіней, курэй. Некалькі сот тысячаў гэктараў ворнае зямлі заняла вада ў ваяводзтвах кракаўскім, львоўскім, келецкім ды варшаўскім, якія знаходзяцца на ўзьбярэжжы Віслы і яе прытокаў. Шкоды, нароблены паводкай, аблічаюцца на сотні мільёнаў злотых. Звыш ста тысячаў людзей утраціла сваю маемасьць і ня мае з чаго жыць. Урад ужо выасыгнаваў значныя сумы на дапамогу пацярпеўшым ад паводкі, а розныя ўстановы і грамадзянства, як у краі так і заграніцай, складаюць ахвяры на карысьць людзей, якіх так неўспадзеўкі спаткала такое вялікае няшчасьце.

Заклікаем усіх да складаньня ахвяраў, чым хто можа. Ахвяры належыць скіроўваць у адпаведныя камітэты.

— У працягу месяца ліпеня вывезена з Польшчы на заграічныя рынкі 31.160 тонаў пшаніцы, 14.418 тон. жыта, 10.399 т. ячменя і 1.707 т. аўса. У параўнаньні да папярэдняга месяца—экспорт жыта і аўса зьменшыўся, а павялічыўся экспорт пшаніцы і ячменя.

— Паводле дадзеных Таварыства ўзаемнага страхаваньня, за мінулыя 10 гадоў, г. зн. ад 1924—1934 у Польшчы згарэла будынкаў на суму 283 міл. злотых. Найбольш цяжкім быў год 1929, калі згарэла на 50 мільёнаў злотых.

— Тэрмін увядзеньня ў жыцьцё новага закону бразылійскага ўраду, які агранічвае выезд з Польшчы ў Бразылію, адложаны на адзін месяц. Новы дэкрэт будзе абавязваць ад 15-га верасьня. Паводле яго усе эмігранты павінны мець спэцыяльныя „карты вызава". Эмігранты ня рольнікі павінны апрача таго мець з сабой: 3.000 мільрэйсаў кожны дарослы чалавек, 2.000 кожнае дзіця.

— Тэрмін сплаты „Пазычкі Народовай" прадоўжаны да *5-га верасьня 1934 г.* Тэрмін гэты трэба лічыць апошнім, пасьля якога ўжо прымаць сплатаў ня будуць.

---

# За граніцай.

× 6. г. м. адбыліся ўрачыстыя хаўтуры нямецкага прэзыдэнта *Гіндэнбурга.* Пахавалі яго на танэнбэргаўскім узгорку, скуль у 1914 годзе кіраваў бітвай. На хаўтуры прыбыло 100 спэцыяльных цягнікоў толькі з самага Бэрліна з прадстаўнікамі розных арганізацыяў. Прысутных налічваюць 200.000 чал. Над гробам прэзыдэнта меў вялікшую прамову Гітлер.

× Адносна павароту *Нямеччыны ў Лігу Нацыяў,* Гітлер заявіў корэспондэнту „Дэйлі Мэль", што ён будзе магчымым толькі ў тым выпадку, калі Нямеччына будзе карыстацца роўнымі правамі з вялікшымі цэнтральнымі дзяржавамі.

× У гутарцы з прадстаўнікамі прэсы, *баўгарскі* міністр-прэзыдэнт Георгіеў адносна балканскага пакту заявіў, што сяньняшні баўгарскі Урад, як і папярэдні, да гэтага пакту ня прылучыцца дзеля таго, што гэта азначыла б дабравольнае зрачэньне права дамагацца перагляду трактатаў. Баўгарыя пакладае надзеі на Лігу Нацыяў, бо 19 параграф статуту Лігі гаворыць аб магчымасьці перагляду міжнародных умоваў, якія пакрыўдзілі Баўгарыю ў сэнсе зьменшаньня яе тэрыторыі.

× Гэтымі днямі выступіў з прамовай *швайцарскі* ваенны міністар Мінгэр, у якой заявіў, што ваеннае міністэрства распрацоўвае плян адносна ўзмацаваньня ўсіх граніцаў Швайцарыі будуючы крэпасьці. Адначасна ў восені будзе разглядацца закон адносна прадаўжэньня тэрміну вайсковай службы.

× 5. г. м. быў апублікаваны афіцыяльны пратакол адносна ўзнаўленьня дыпляматычных зносіваў паміж СССР і Баўгарыяй.

× У мінулым тыдні быў узарваны, недалёка ад Харбіна, японскі ваенны цягнік з амуніцыяй. *Манджурскія* ўлады вядуць расьледаваньня.

У афіцыяльным данясеньні гаворыцца, што ўзрыў гэты быў зроблены савецкімі ўрадоўцамі Кітайскай Усх. чыгуначнай дарогі. Адначасна Урад заяўляе, што здымае з сябе ўсялякую адказнасьць за бяспечнасьць на чыгунках да таго часу, пакуль па іх будуць служыць савецкія ўрадоўцы. Калі будзе цьвёрда ўстаноўлена, што ў гэтым замаху бралі ўдзел савецкія ўрадоўцы — Манджурскія ўлады зьбіраюцца канфіскаваць гэтую дарогу, што можа быць прычынай вялікшага канфлікту паміж Манджуко а СССР.

× Ваеннае *амэрыканскае* (Злучаныя Штаты) міністэрства распрацавала праэкт абароны насельніцтва на выпадак лётнічага паветранага нападу. Дзеля правядзеньня ў жыцьцё гэтае праграмы, ўрад будзе дамагацца ад кангрэсу 33 міл. даляраў. Новы плян паветранай абароны прадбачыць будаваньне спэцыяльных гармат найнавейшай конструкцыі і вялікшага ліку прожэктараў. Апрача гэтага будзе зарганізавана 8 палкоў міліцыі, 1 полк нацыянальнай гвардыі і 19 рэзэрвовых атрадаў.

× Гэтымі днямі вярнуўся з Масквы *літоўскі* міністр заграінчных спраў Лозорайціс. Прычына яго паездкі ў Маскву і конфэрэнцыі з Літвінавым — урэгуляваньня суадносін як палітычнага, так і гаспадарчага характару паміж СССР і Літвой.

× Як падае „Таймс" — у *Савецкай Расеі* прадбачыцца ў гэтым годзе нябывалы голад. Нават цяпер, пасьля зборкі ўраджаяў, можна заўважыць недахоп прадуктаў як у магазынах так і на рынках. Цэны на хлеб павысіліся, у сувязі з чым Урад быў змушаны падвысіць пэнсіі ўрадоўцам ад 10-15 працэнтаў, што выносіць новы, непрадбачаны выдатак на суму 95 міл. рублей у месяц.

Прычына пагражаючай галадоўкі—няўраджай у пэўных раёнах: частка Украіны, Крым, Паўночны Каўказ, Волжскі басэйн, Туркестан і Сібір. У сувязі з голадам магчыма паўстаньне, якое мела месца ў Кубані і ў іншых раёнах.

× Вялікае ўзварушаньне ў палітычных *італьянскіх* кругох зрабіла конфэрэнцыя Муссолінята з б. мэрам Мілана, сацыялістам Кальдарам, які і пры фашыстоўскім рэжыме не зьмяніў сваіх поглядаў. Кальдар паміж іншым зазначыў, што, паводле яго, каапэратыўная дзяржава, як паказала жыцьцё, зьяўляецца вялікім шагам наперад у сэнсе рэалізацыі соцыялізма. Гэтакая заява вельмі падабалася Муссоліняму, які запрапанаваў Кальдару напісаць на гэтую тэму артыкул у афіц. фашыстоўскім органе „Popolo d'Italia". Кальдар адмовіўся, але запрапанаваў залажыць новую газэту, якая-б карысталася поўнай свабодай друку. Муссоліні, падобна, згадзіўся. У гэтым бачым зблíжэньне фашыстаў з соцыялістамі.

× *Аўстрыя* згадзілася на назначэньне фон Папэна *нямецкім* надзвычайным паўнамочным прадстаўніком ў Вене.

× Як даведваемся—Наркоміндел Літвінаў мае ў хуткім часе адбыць даўжэйшае падарожжа па Эўропе. На конфэрэнцыях, якія будзе ён мець з прадстаўнікамі пасобных дзяржаў, будзе парушацца справа праекту „Усходняга Лёкарно", а таксама адносіны Італіі да праектаванага ўваходу Саветаў у Лігу Нацыяў.

---

# Усячына.

### Жанчына радзіла адразу сем хлапцоў.

У месьце Богоце, — сталіцы паўднёва-амэрыканскае Рэспублікі Колюмбіі,—жонка тузэмнага работніка Пэрэза Гардо радзіла адразу сем здаровых хлопчыкаў. Гэтае здарэньне выклікала сярод жыхароў места настолькі моцнае ўражаньне, што яны пастанавілі зьвярнуцца да колюмбійскага парлямэнту с просьбаю, даць гэтай дружыне вынятковую дапамогу.

---

# Паштовая скрынка.

У адказ на запытаньні некаторых бацькоў вучняў Наваградзкай Беларускай гімназіі ў справе варункаў пераходу іх дзяцей, — у сувязі з ліквідацыяй Наваградзкай гімназіі,—ў Вільню,прэзыдыюм ТБА выясьняе на падставе інфармацый, атрыманых ад дырэкцыі Віленскай Беларускай гімназіі, што ў гэтым пытаньні належыць *зварочвацца непасрэдна да Дырэктара Наваградзкай гімназіі,* які ў гэтай справе ўжо атрымаў ад Дырэктара Віленскай дакладныя выясьненьні.

**Пашырайце нашу газэту.**

Рэдактар: М. СІНЯЎСКІ. Выдавец: ТБА. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22.